

# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 2 (636)**
**Люты 2019 г.**


# Кніга пра гэбраяў у беларускай літаратуры

***Zina Gimpelevich, The Potrayal of Jews in Modern Bielarusian Literature. McGill–Queens University Press, Montreal–London–Chicago, 2018.***

У чэрвені летась ва ўнівэрсытэцкім канадыйскім выдавецтве Макгіл выйшла кніга "Прадстаўленьне гэбраяў у сучаснай беларускай літаратуры", якую напісала дасьледчыца беларускай літаратуры, аўтар шэрагу кнігаў і артыкулаў, прафэсар Унівэрсытэту Ўотарлу ў Канадзе др. Зіна Гімпелевіч. Гэта ўжо ня першая праца па беларускай культуры, што выходзіць з-пад пяра др. Гімпелевіч, якая зьяўляецца аўтарам першай англамоўнай кнігі пра Васіля Быкава, а таксама твору пра беларускіх гэбрайскіх пісьменьнікаў 20-га ст., і шэрагу артыкулаў па беларуска-гэбрайскіх культурных сувязях у акадэмічных выданьнях. У папярэдняй кнізе, якая завецца "Беларуска-яўрэйскія пісьменьнікі 20-га стагодзьдзя: Паходжаньне, гісторыя, дыскурс і біяграфіі", што выйшла ў Ўынфільдзе, Канзас, прасочваецца жыцьцё і праца 166 гэбрайскіх


Др. Зіна Гімпелевіч

пісьменьнікаў зь Беларусі, або, як называе іх аўтарка, беларускіх гэбрайскіх пісьменьнікаў. Досыць інфарматыўным зьяўляецца ўступ пра дзейнасьць і лёс беларускіх гэбраяў, дзе аўтарка шырака ўжыва назовы "беларус-хрысьціянін" і "беларус-юдэй", што таксама працягваюць ужывацца ў новай, разгляданай тут кнізе.

Сама кніга складаецца зь дзесяці разьдзелаў і эпілёгу, а таксама дадатку, у якім падаюцца ў ангельскім перакладзе адзінаццаць вершаў Рыгора Барадуліна, што закранаюць тэмы, зьвязаныя з гэбраямі.

Ва ўступным слове др. Зіна Гімпелевіч адзначае, што беларуская літаратура наагул сьведчыць пра тое, што беларуская сьведамасьць ўвогуле не заплямленая антысэмітызмам. Далей, ва ўступным першым разьдзеле, яна адзначае, што "на працягу сямі стагодзь-

***заканчэньне на бачыне 3***

# Запрашаем на Гуканьне вясны

Шаноўныя беларусы, калі вам надакучылі зімовыя маразы ды завірухі, запрашаем адзначыць з намі старадаўні абрад **Гуканья вясны**, як гэта штогод рабілі нашыя продкі. Сьвяткаваньне адбудзецца ў маляўнічых мясьцінах на ўзьбярэжжы Гудзону прыкладна 40 хвілін ад Мангэтану ля станцыі цягніку **Ossining** у нядзелю **3 сакавіка 2019 году** (у выпадку сьнегападу пераносіцца на 10 сакавіка) а **12-й** гадзіне папаўдні па адрасу: ***1 Westerly Road, Ossining, NY 10562***.

Падсілкуемся традыцыйнымі абрадавымі стравамі ў клюбе, а тады ў строях будзем вадзіць карагоды і прасіць птушак прынесьці доўгачаканую вясну на сваіх крылах. Падчас кульмінацыі сьвята пусьцім саламяную ляльку (а зь ёю і ўсе непрыемнасьці і цёмныя думкі) па хвалях паўнаводнага Гудзону.

***Праграма сьвята:***
*12-1 – абед;*
*1-2 – Гуканьне вясны на беразе ракі;*
*2-3 – кава і пачастункі;*
*3-5 – парныя танцы.*



Кошт удзелу **$15** ад асобы. З пытаньнямі зьвяртайцеся да арганізатараў **Пятра** і **Алены Рыжых** ***lenabelarus@yahoo.com***, а таксама да **Ганны Шарко** і **Аляксандра Мазгавога** ***sharkohanna@gmail.com***.

# Студзеньскі сход Згуртаваньня "Пагоня"

У суботу, 12 студзеня, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Напачатку сходу старшыня сп. Віталь Зайка распавёў аб дзейнасьці арганізацыі за мінулы год і аб плянах на год наступны. Ён таксама азнаёміў гасьцей, што прыйшлі на сход арганізацыі ўпершыню, пра яе дзейнасьць, мэты і прынцыпы.

Затым у рамках сходу прайшоў сэмінар аб працы і вучобе ў ЗША. Першым выступоўцам сэмінару быў сп. Віталь Крэмез, які працуе ў сфэры інфармацыйных тэхналёгіяў (IT). Сп. В. Крэмез паведаміў прысутным пра тое, што сам зь Менску, скончыў школу № 32, вучыўся ў наргасе. Калі прыехаў у Амэрыку, мусіў працаваць у Канэктыкуце на будоўлі і таксама вадзіць тракі. Перайшоў працаваць як fire safety director. Затым скончыў Джон Джэй Каледж крымінальнай юстыцыі, знайшоў працу ў дзяржаўным сэктары, працаваў у сакрэтным сэрвісе і ў пракуратуры. Потым стварыў уласную кампанію, якая займаецца праблемамі кібэрбясьпекі, расьсьледуе кібэр-злачынствы, ловіць хакераў. У Джон Джэй Калэджы сп. Крэмез вывучаў information security, і пасьля заканчэньня падумаў, што яго ня вабіць праца адваката, але цікава было б займацца змаганьнем з кібэр-злачынствамі. Так пачаў працаваць у ФБР і цяпер узначальвае фірму з васьмю супрацоўнікамі. Прысутныя задавалі Віталю пытаньні: ці ў IT-сфэры і ў ягонай кампаніі бяруць на працу людзей старэйшага веку, дзе самыя небясьпечныя хакеры, ці можна самастойна вывучыць курсы па кібэрбясьпецы і знайсьці працу, якія ёсьць рэсурсы і дапаможнікі.

Потым з паведамленьнем пра сваю працу і вучобу выступіла сп-чня Кацярына Кабановіч. Яна ў прыватнасьці сказала, што пачала свой шлях на адным з такіх вось самых сэмінараў, ладжаных "Пагоняй", на якім выступіла Яўгенія Барысевіч, што вучылася тады ў FIT-інстытуце на дызайнэра модаў, і калі Кацярына падыйшла пасьля сэмінару, распавяла ёй пра ўсе дэталі вучобы ў сыстэме CUNY, як падрыхтавацьі падаць дакумэнты нават ня маючы зялёнай карткі, як атрымаць фінансавую дапамогу, крэдыты, як скараціць кошты і паскорыць вучобу. Таксама даведалася, як здаць TOEFL, і як напісаць эсэ на паступленьне ў каледж. У выніку Кацярына паступіла ў Хантар-Каледж і атрымала ступень бакаляўра псыхалёгіі, працавала ў сыстэме адукацыі па early intervention services, цяпер вучыцца на мастэр-ступень па спэцыяльнасьці clinical social work. Кацярына таксама адказала на пытаньні прысутных, і сп. Віталь Крэмез дапаўняў некаторыя адказы прыкладамі са свайго досьведу.

Наступным выступоўцам быў сп. Алесь Тур, які працуе ў банкаўскай інвэстыцыйнай сфэры. Ён распавёў пра тое, што пачынаў сваю працу ў Амэрыцы з самага нізу, быў наборшчыкам у газэце, прыбіральшчыкам, бармэнам. Трэба як найболей камунікавацца зь людзямі, слухаць інфармацыі й парады, і не баяцца замахвацца на вялікія праекты. Сп. Тур здолеў скончыць за 3 гады Калюмбійскі ўнівэрсытэт па спэцыяльнасьці фінансаў і банкаўскай справы, знайшоў добрую працу, і праз некалькі год здолеў выплаціць усе пазыкі на вучобу. Калі паступаў ва ўнівэрсытэт здолеў перавесьці каля 60 крэдытаў з сваёй адукацыі ў Беларусі, і падзяліўся падрабязнасьцямі таго, як найлепей гэта зрабіць. Ён параіў не баяцца громкіх імёнаў і назваў, паўсюль можна ўладкавацца на працу. Часьцяком, як і ў іншых аспэктах жыцьця, адважны і напорысты чалавек з меншымі ведамі апярэджвае нерашучага, хоць і кампэтэнтнага, спэцыяліста. Алесь пасьля заканчэньня вучобы працаваў вельмі інтэнсіўна, па 100-120 гадзінаў на тыдзень, часам даводзілася ня спаць некалькі ночаў запар. Потым перайшоў на спакайнейшую і лепей аплочваемую пасаду ў Ротшыльд-банку. Алесь таксама адказаў на пытаньні прысутных.

Затым з прэзэнтацыяй пра абрад Калядаў выступіла сп-ня Валянціна Якімовіч. Яна распавяла пра значаньне слова "каляды", пра паходжаньне абраду, і пра свой асабісты досьвед сьвяткаваньня Калядаў. Яна спынілася на сваім удзеле ў маладзёвых згуртаваньнях "Талака" і "Дзяньніца", якія займаліся, сярод іншых справаў, адраджэньнем беларускай нацыянальнай культуры і абрадаў. Сп-ня Якімовіч таксама спынілася на асобе выбітнага нацыянальнага паэта Анатоля Сыса, якога ведала асабіста, і які зрабіў значны ўплыў на яе, і шмат каго іншага, у справе кшталтаваньня нацыянальнай сьведамасьці й любові да ўсяго беларускага. Наагул, гістарычна Каляды – гэта ўслаўленьне сонца, прыроды, працягу чалавечага роду. "Усе нашыя сьвяты ў той або іншы спосаб зьвязаныя з каханьнем. Затым гэтае сьвята і абрад былі ўведзеныя ў хрысьціянскі каляндар і спалучаныя з нараджэньнем Хрыстовым, і атрымалі дадатковы сэнс і тэалягічнае абгрунтаваньне. Але той першапачатковы, народны кампанэнт таксама застаўся, і мы адчуваем яго і дасюль у калядных сьпевах і абрадах, у прыгатаваньні страваў і куцьці, у тым настроі, якім суправадаецца калядаваньне і валачобніцтва".

Валянціна таксама распавяла пра сьвяткаваньне Калядаў у Амэрыцы, пра рэакцыю амэрыканцаў на наш абрад. Яна таксама падкрэсьліла, што народнае і фальклёрнае спалучана з палітыкай, бо калі ты сёньня ў Беларусі ведаеш беларускую мову і сьпяваеш па-беларуску – гэта ўжо палітыка.

Потым прысутныя разам з Валянцінай Якімовіч прасьпявалі некалькі калядных сьпеваў: "Ямін-ямін-яміна", "Ой, грай-мора", "Калодзеж-калодзеж", "Шчодры вечар". Валянціна запрасіла ўсіх зацікаўленых узяць удзел у калядных сьпевах зьвяртацца да яе, каб можна было сабраць групу аматараў, што брала б удзел у рэпэтыцыях, а тады выступала на традыцыйных беларускіх абрадах.

Затым прысутныя мелі нагоду працягнуць гутаркі й знаёмствы пры сьціплых пачастунках.

***Віталь ЗАЙКА***



# Кніга пра гэбраяў у беларускай літаратуры

*заканчэньне з бачыны 1*

дзяў гэбраі былі найбольш значнай меншынёй на гістарычна беларускіх абшарах. Сапраўды, Беларусь была істотнай часткай так званага Ідыш-лэнду (часткі Эўропы, дзе была распаўсюджаная мова і культура ідыш). Больш таго, Беларусь была адзінай краінай у сьвеце, адной зь дзяржаўных моваў якой была мова ідыш". Аўтарка адзначае, што нягледзячы на ўсё гэта, выява гэбрая ў беларускай літаратуры, у адрозьненьні ад літаратураў польскай, украінскай і, асабліва, расейскай належна не была дасьледваная, за выключэньнем хіба працы Веры Рыч (1936-2009), "Гэбрайскія тэмы і характары ў беларускіх тэкстах". Затым аўтрка падкрэсьлівае, што "няшмат людзей ведаюць, што Беларусь была ўслаўленая багатай і моцнай літаратурай, якую стварылі шматлікія таленавітыя пісьменьнікі".

У падразьдзеле, які закранае гісторыю ўзаемаадносінаў беларусаў і гэбраяў, "Гэта не было настальгіяй: супольнае мінулае хрысьціянаў і гэбраяў", др. Зіна Гімпелевіч падкрэсьлівае, што ад пачаткаў гэбрайскага асадніцтва на беларускіх землях яны мелі мажлівасьць свабодна вызнаваць сваю рэлігію, мелі правы, замацаваныя ў Літоўскіх Статутах, і з часам сталі неадемнай часткай эканамічнага і сацыяльнага жыцьця. Ад старажытных часоў адносіны гэбраяў і негэбраяў у Беларусі адзначаліся мірным і ўзаемапаважлівым стаўленьнем, і большая частка гвалтаў і рабункаў супраць гэбраяў былі справай рук зьнешніх сілаў, як прыкладам, казакоў Хмельніцкага або расейскага войска. Аўтарка піша пра паглыбленьне ўзаемасувязяў беларускай і гэбрайскай культуры пасьля рэвалюцыі, і ў кароткі пэрыяд падтрымкі й разьвіцьця ідышысцкай і беларускай культураў, і што разьвіцьцё абедзьвух культураў было амаль цалкам прыпынена падчас сталінскіх рэпрэсіяў.

Аўтарка супастаўляе Марка Шагала і Васіля Быкава, што паходзілі зь Віцебшчыны, вучыліся ў той жа мастацкай вучэльні (зразумела, што Быкаў – значна пазьней), і адыгравалі падобна значную культурную ролю па-за сваёй асноўнай працай (мастацтва, пісьменьніцтва) для, адпаведна, гэбраяў і беларусаў, і абодва зь вялікім пачуцьцём любові ставіліся да зямлі свайго нараджаньня.

Аўтарка разглядае ўплывы расейскай мовы і культуры на беларусаў і гэбраяў, і падрэсьлівае агульныя для абодвух этнасаў тэндэнцыі, што былі выкліканыя гэтымі ўплывамі. Разам з тым Гімпелевіч адзначае, што гэбраі былі больш ангажаваныя палітычна і, адпаведна, мелі большую колькасьць сваіх палітычных партыяў, хоць да кастрычніка 1917 году гэбраў, як і




беларусаў, было зусім няшмат сярод бальшавікоў. Закранаюцца такама гэткія тэмы, як удзел гэбраяў у абвешчаньні й дзейнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і супраца беларускіх і гэбрайскіх нацыянальных дзеячоў, а таксама змаганьне савецкіх уладаў зь беларускім і гэбрайскім нацыянальнымі рухамі. Затым др. Гімпелевіч адзначае, што трагічныя гады вайны назаўсёды зьмянілі дэмаграфічны склад жыхарства Беларусі, а сталінскі перасьлед завершыў разбурэньне гэбрайскай грамады і заняпад гэбрайскай культуры, але напрыканцы 1960-х гадоў нацыянальная сьведамасьць і культура гэбраяў адраджаюцца, і тое ж адбываецца, хоць больш павольна, і ў беларусаў.

Др. Гімпелевіч дае кароткі агляд навуковай літаратуры апошняга часу, што закранае гісторыю гэбраяў і беларусаў, асабліва публікацыі беларускіх навукоўцаў пра гэбраяў і гэбрайска-беларускія культурныя ўзаемадачыненьні.

Наступны разьдзел кнігі прысьвечаны аналізу выяваў гэбрая ў раньніх творах беларускай літаратуры, пачынаючы ад Сямёна Полацкага, "школьных камэдыяў" і Каэтана Марашэўскага, і пазьней, да апавяданьняў Якуба Коласа ("Антось Лата", "Казкі жыцьця") і ягонай паэмы "Сымон-Музыка".

У наступных разьдзелах др. Зіна Гімпелевіч закранае наступныя тэмы: звароты ў мастацкай форме да гэбраяў Янкі Купалы, Натальлі Арсеньневай і Максіма Танка, і кантэкст гэтых твораў, творчасьць беларускага пісьменьніка гэбрайскага паходжаньня Цішкі Гартнага, ураджэнца Капыля, і лёсы гэбрайскіх пісьменьнікаў з Капыля – сярод якіх заснавальнік літаратуры на ідыш Мэндэле Мойхэр-Сфорым (Шолам Абрамовіч).

У разьдзеле "Гэбраі ў творчасьці Міхася Лынькова" аўтарка разглядае апавяданьні славутага беларускага пісьменьніка, сярод якіх "Гой", што стала першым напісаным па-беларуску творам, які прачытаў у маленстве Васіль Быкаў, а таксама апавяданьні "Хома" і "Ў мястэчку", дзе адлюстраваныя адносіны беларусаў і гэбраяў. Сярод іншых разьдзелаў прадстаўлены наступныя:

Юрка Віцьбіч і гэбраі;

Янка Брыль, "Мой лепшы сябра Зяма";

Гэбрайскія тэмы як аспэкт творчасьці Ўладзімера Караткевіча;

Рыгор Барадулін пра гэбраяў;

Гуоргі Мусіевіч "Людзі, што жылі сярод нас".

Дадатак: нарыс пра беларускае вымаўленьне і трансьлітэрацыю.

Дадатак: Вершы Рыгора Барадуліна.

Варта адзначыць, што скрозь праз сваю кнігу др. Зіна Гімпелевеіч ужывае беларускую лацінку, у тым ліку для словаў "Беларусь", "беларускі", што зьяўляецца нязвыклым, але вітаным прыкладам карыстаньня нацыянальнага беларускага правапісу, што ў той або іншы спосаб ужо стасаваўся ў англамоўных тэкстах на беларускія тэмы, асабліва сярод беларускіх эміграцкіх аўтараў, але дасюль застаецца малавядомы для чытачоў у Беларусі й вольным сьвеце, нават для спэцыялістаў-славістаў і гісторыкаў. Папулярызацыя гэтага правапісу – ухвальная і вельмі патрэбная сёньня справа.

Цікава таксама адзначыць, што кніга прысьвечаная Старшыні Рады БНР Івонцы Сурвілла.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Дуалізм Амэрыкі

Калі табе 20 гадоў, ты ненаўмысна захапляешся дваістасьцю, пачынаеш заўважаць адваротны бок кожнай зьявы, але большасьць людзей за гэтае ўменьне далей ніколі так і не выходзіць. Калі на гэтым этапе свайго дарослага разьвіцьця бачыць полюснасьць і карысна, і пазнавальна, то ў трыццаць ужо трэба гэтыя дыхатоміі і дуалізмы пераўзыйсьці і пачаць заўважаць усю неахопную і захапляльную шматграннасьць нашага жыцьця. Нехта кажа – ненавіджу Амэрыку, іншы – Амэрыка такая цудоўная! Дваццацігадовы філязоф кажа – Амэрыкі дзьве, дэмакратычная і рэпубліканская, веруючая і сьвецкая, паўднёвая і паўночная, усходняя і заходняя, цэнтральная і ўзьбярэжная, марс і сьнікерс, і дуалізмам гэтым няма канца. На самой справе ўсё нашмат складаней, і я ўжо даўно хацеў напісаць пра гэта, толькі ня ведаў, як аформіць свае развaжаньні, як раптам на дапамогу прыйшла мне камэдыя “A touch of Class” з Джорджам Сэгалам і Глэндай Джэксан. Падчас сваркі ў іх адбываецца вось такі дыялёг (падаецца ў маім перакладзе):

– О, божа, вы ўсе аднолькавыя. Гэтая зацыкленасьць на глебе мужчынскай сэксуальнай спраўнасьці. Гэта так тыпова па-амэрыканску.

– Няўжо?

– Так, так. Калі ты ня супраць чуць пра гэта.

– Я ня супраць, каб чуць. Вось толькі гэтая фраза – тыпова па-амэрыканску.

– Што ня так?

– Бо няма нічога такога як тыпова амэрыканскі. Амэрыка – гэта вялікае месца, які тыпова амэрыканскі куточак маецца на ўвазе? Таксісты ў Нью-Ёрку, шахцёры ў Пэнсыльваніі, студэнты ў Бэрклі, мармоны ў Юце, дочкі амэрыканскай рэвалюцыі, ты іх маеш на ўвазе? Адкрыю табе сакрэт, яны ўсе кідаюць адзін у другога камянямі. Адзіная рэч, якая тыпова амэрыканскай для двухсот мільёнаў амэрыканцаў – гэта тое, што яны ніколі адзін да другога непадобныя, і гэта таксама тычыцца шморганьня, каб ты ведала.

– Канешне, я размаўляла з усімі двухсот мільёнамі.

– Ня будзь ідыёткай.

**Віталь ВОРАНАЎ**




### Уплаты ў Згуртаваньне
Складкі й ахвяраваньні:

**С. Багданава ............60**
**В. Едзіновіч ............60**
**В. Зайцаў ...............60**
**К. Кабановіч ............60**
**А. Корзун ...............60**
**К. Ліпская ..............60**
**П. Шымко ................60**

**Усім шчыры дзякуй!**

### Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**
адбудзецца ў суботу **9-га лютага 2019 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.
Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

**В. Едзіновіч ............30**
**К. Кабановіч ............30**
**А. Корзун ...............30**
**К. Ліпская ..............30**
**А. Пранцэвіч ............30**
**Л. і П. Рыжы ............30**
**С. Сіткевіч .............30**
**П. Шымко ................30**

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”**
***Viktar Yedzinovich.***

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя для друку артыкулы, водгукі й лісты.*

Шаноўныя сябры Згуртаваньня “Пагоня”, калі ласка, сваечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь “Весткі й Паведамленьні”.

*Паважаныя падпісчыкі бюлетэня “Весткі й Паведамленьні **А. Волкава, А. Талочка, Т. Трaскоўская**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*